


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны




№ 6 (142), КРАСАВІК 2012 ГОДА

*Цытата нумара:*

**У грамадзянскай вайне любая перамога ёсць параза.**

*Лукан, рымскі паэт.*

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

# ЗААСФАЛЬТАВАЦЬ ДАРОГІ

**Праблема ператварэння дарог прыватнага сектару беларускіх гарадоў у дрыгву па вясне і восені існуе увесь час існавання аўтарытарнай улады. Зацяжная вясна 2012 году абвастрыла гэту праблему, калі жыхары прыватнага сектару Гарадка з цяжкасцю пераадольваюць ямы і гразь на вуліцах, а аўтааматары і спецмашыны часам не могуць даехаць да свайго месца без дапамогі трактароў.**

Пра дадзеную праблему мы пісалі ў папярэднім нумары "Дрэнныя дарогі як дыягназ". Да яе гэтай вясной не раз звяртаецца і раённая газета. Але рэакцыя чыноўнікаў ад улады звычайна зводзіцца да здзеклівага адказу – няма сродкаў. Вось так – праходзяць дзесяцігоддзі, будуюцца лядовыя палацы, аграгарадкі, праводзяцца пампезныя "Дажынкі", а засыпаць для пачатку ямы і калдобіны пяском ці гравіем – няма сродкаў?!

Мне даводзілася ў 2008 годзе дапамагаць жыхарам вуліц мікараёна Міра – 2-й, 3-й звяртацца да старшыні райвыканкама Анатоля Мароза наконт кепскага стану дарог. Па восені паабяцалі, што ў наступным годзе пытанне вырашаць. Але летам 2009 года прыйшла чарговая адпіска за подпісам ужо Вячаслава Грыбанава – намесніка старшыні райвыканкама, што зроблена падсыпка і грэйдзіраванне гэтых вуліц. Але гэтай падсыпкі не зрабілі ні тады, не зрабілі і да гэтага часу.

Наша кіраўніцтва хутчэй набудзе для сябе джыпы, каб ездзіць па бездарожжу, чым зробіць нармальныя дарогі і тольki будзе казаць – няма сродкаў. А нармальныя дарогі – гэта дарогі з асфальтавым пакрыццём. Толькі дзесьці ў 2005-2007 гадах зрабілі асфальтавае пакрыццё на вуліцы Новай і часткова на Чкалава і Галіцкага з праездам паміж імі. Апошнія гады асфальтуецца мусіць 100-150 метраў дарог каля шматпавярховых дамоў. Так мінулай восенню заасфальтавалі праезд на Гагарына, прычым разам з каналізацыйнымі люкамі. Па гэтай вясне камунальнікам давялося разбіваць асфальт, каб дабрацца да каналізацыі.

Гэта канешне пытанне якасці працы нашых дарожнікаў і камунальнікаў. Спасылкі ж уладаў на адсутнасць сродкаў – гэта здзек з істотных праблем жыцця нашых грамадзян. За дзесяцігоддзе інтагрaцыйных абдымкаў краіна атрымала больш 50 мільярдаў даляраў ад Расіі, а ў апошнія гады гэта субсідзіраванне таксама складае 5-7 мільярдаў даляраў. І пытанне палягае ў бескантрольным выкарыстанне кіраўніцтвам гэтых рэсурааў, а таксама ў іх марнатраўстве на вялікі бюракратычны апарат, вялікія спецназаўскія сілы і г.д.. А яшчэ ў адсутнасці эфектыўнай палітыкі па развіццю прадпрымальніцтва ў краіне, якое косткай у горле дзеючаму рэжыму.

Калі ва ўсіх нашых суседзяў прыватны сектар дае каля 70-80% УВП, то ў нас толькі 25-30%. Пры гэтым любы прадпрымальнік не абаронены стабільнымі законамі, адчувае значную залежнасць ад настроя або установкі праўяраючых чыноўнікаў. У выніку Беларусь істотна адстае у канкурэнтнай барацьбе ад Расіі, Казахстана і крыху трымаецца за кошт дзяржаўнага субсідзіравання сельскай гаспадаркі, выкарыстоўваючы энергетычныя траншы суседкі.

У гэтай сітуацыі з кепскімі дарогі грамадзяне павінны стварыць незалежныя вулічныя камітэты, якія настойліва патрабавалі бы ад уладаў вырашэння пытання спачатку рамонта дарог, а потым асфальтавання вуліц. Замест касмічнага спадарожніка, раздутага бюракратычнага апарату ў краіне магчыма вырашыць пытанне асфальтавання. Вырашыць, калі улада будзе сапраўды абірацца народам, а не прызначацца вертыкаллю. І за гэта трэба змагацца, а не чакаць міласціны ад "прамых" ліній, сустрэч з прызначанымі дэпутатамі і г.д. Іншага шляху няма і ў гэтым мы гатовы дапамагчы ініцыятыўным грамадзянам.

**Леанід Гаравы**

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# ПАЛІТВЯЗНІ ДАСЛАЛІ ВІНШАВАННІ З ВЯЛІКДНЁМ

**Леанід Гаравы, актывіст Руху "За Свабоду!", атрымаў вялікодныя віншаванні ад Зміцера Дашкевіча і Міколы Аўтуховіча. Адначасова з гэтым Леанід Гаравы накіраваў віншаванні паштоўкамі многім палітвязням і Алёне Каваленка са светлым святам Уваскрашэння Хрыстова.**

Пасля трохмесячнага перапынку актывіст Руху "За Свабоду!" атрымаў ліст з глыбоцкай калоніі ад Зміцера Дашкевіча. Ліставанне ад Зміцера было прыпынена, бо палітычны вязень быў пакараны на гэты час ізалятарам і карцэрам за адстойванне сваёй годнасці, за адмову выконваць зняважлівыя загады адміністрацыі і адпаведна доўгі час не меў права на ліставанне.

Змагар за Беларусь Зміцер Дашкевіч жадае "Няхай жа ўваскрасеньне Сына Божага асьвятляе Вас на ўсіх шляхах Вашых і ва ўсялякую часіну! Будзьце блаславеныя! "Няма іншага імя пад небам, дадзенага людзям, у якім маглі б мы быць збаўленыя" (Дзеі, 4:12)."

У чысты чацвер таксама прыйшоў ліст і паштоўка ад Міколы Аўтуховіча, які па палітычна матываванаму прысуду ў 2009 годзе атрымаў пяць гадоў зняволення за пяць патронаў. Спадар Аўтуховіч выказвае падзяку за атрыманую кнігу "Золотые правила народной культуры» Аксаны Катовіч і Янкі Крука. У лісце палітычны вязень выказвае сваё меркаванне аб сітуацыі ў краіне: "І зараз мы маем тое, што заслугоўваем, бо не здолелі супраціцтаяць гэтаму. Маўчалі. А цяпер апомніліся, але моц рэжыму палохае большасць людзей і яны зноў маўчаць". Напрыканцы ліста Мікола Аўтуховіч выказвае падзяку усім , хто з ім лістуецца, бо "гэта дадае моцы і час ідзе хутчэй. Дзякуй за падтрымку!".

Леанід Гаравы напярэдадні праваслаўнага Вялікадня накіраваў паштоўкі Міколе Статкевічу, Алесю Бяляцкаму, Зміцеру Бандарэнка, Яўгену Васькоўвічу, Эдуарду Лобаву і іншым палітвязням, уключаючы жонку палітычнага вязня Сяргея Каваленкі – Алену Каваленку.

Спадар Гаравы спадзяецца, што гэтае віншаванне абавязкова атрымае Мікола Статкевіч, якому турэмнае кіраўніцтва арганізавала інфармацыйную блакаду, знішчаючы абсалютную большасць лістоў, якія накіроўваюць палітвязню неабыякавыя грамадзяне.

**Л. Антонаў**

ТАК ПРАЦУЮЦЬ

# НЕЧАКАНЫ ДЗЕНЬ ЦВЯРОЗАСЦІ

**7 красавіка на Благавешчанне спажыўцы Гарадоччыны даведаліся, што ў раёне забаронены продаж любых спіртных напояў. Пра гэта ў суботу паведаміла газета Гарадоцкага райвыканкама "Гарадоцкі веснік"**

23 сакавіка старшыня Гарадоцкага райвыканкама Васіль Муранкоў выдаў распараджэнне "Аб правядзенні "Дня цвярозасці" з 8.00 7 красавіка па 8.00 8 красавіка у межах сусветнага Дня здароўя. Аб дадзеным распараджэнні са старонак газеты грамадзяне Гарадоччыны даведаліся толькі тады, калі "Дзень цвярозасці" ужо дзейнічаў напоўніцу. У крамах рэгіёна усім спажыўцам было забаронена прадаваць алкагольныя напоі. У непрыемным становішчы апынуліся тыя спажыўцы, якія у гэты дзень планавалі адзначыць дзень нараджэння або іншае свята, але не мелі запасаў якасных він або гарэлкі.

Правядзенне "Дня цвярозасці" неабходная мера для папярэджання і пераадолення пьянства і алкагалізма, якія сталі ліхам для беларускага народа асабліва за апошнія 17 гадоў. Але фармальнае запознанае абвяшчэнне дадзенай акцыі парушае правы спажыўцоў і дыскрэдытуе ідэю дня цвярозасці. Не зразумела, чаму пры выдачы распараджэння 23 сакавіка аб ім загадзя не было паведамлена ні ў раёнцы, ні на галоўнай старонцы афіцыйнага сайта райвыканкама.

Прыцягнутым за вушы выглядае правядзене гэтага Дня ў межах сусветнага Дня здароўя, які тэматычна адзначаецца кожны год. Дзень здароўя адзначаецца штогод 7 красавіка, як дзень заснавання Сусветнай арганізацыі здароўя, якая была ўтворана ў 1948 годзе. Пра яго тэму "Старэнне і здароўе" і лозунг "Добрае здароўе дадае жыцця да гадоў" так і не паведамілі жыхарам рэгіёна.

Зараз вядома, што ёсць яшчэ адно распараджэння Васіля Муранкова аб забароне продажу пладова-ягадных напояў пад час пасяўной кампаніі. Але аб часе гэтай забароны дакладна невядома, бо пакуль палі Гарадоччыны знаходзяцца пад снегам. Але аматары "чарніла" мусяць рыхтавацца да чарговай акцыі райвыканкама загадзя.

**Л. Антонаў**

Ад рэдакцыі: забарона на продаж "чарніла" ўступіла ў дзеянне з 16 красавіка, а аб'ява аб гэтым з'явілася своечасова за пяць дзён.

ПРАБЛЕМА ПАМЯЦІ

# ПРАВАДЫРА БАЛЬШАВІКОЎ ВЯРНУЛІ НА ПЛОШЧУ

**На цэнтральную плошчу Гарадка 18 красавіка вярнулі помнік Уладзіміра Леніна. Пры гэтым пастамент пад помнік умацавалі вельмі грунтоўна. Быццам на стагоддзі забетанавалі калодзежныя кольцы для пастамента.**

Гарадоцкія камунальнікі вельмі хутка справіліся з праблемай разбурэння пастамента пад помнікам Леніна. За тры дні пастамент быў рэканструіраваны і зноў прыняў статую правадыра кастрычніцкага перавароту. Менавіта ідэі правадыра і яго нашчадкаў прывялі да знішчэння мільёнаў працавітых людзей Савецкага Саюзу і закансервавалі адставанне савецкага народу ад цывілізаваных краін.

Гісторыя ужо вынесла свой прысуд правадыру перавароту і толькі на ўскрайку Савецкага Саюза ўлады мяркуюць шанаваць натхняльніка чырвонага тэрору, які апошнія гады правёў у псіхічнай хваробе. Утапічная палітыка нашчадкаў Леніна мела вельмі мала агульнага з інтарэсамі пралетарыяту і па вялікаму рахунку абслугоўвала пераважна інтарэсы партыйнай наменклатуры. Дзеля гэтых інтарэсаў за гады савецкай улады адбылася гвалтоўная русіфікацыя беларусаў, якіх пазбавілі нацыянальнай свядомасці і гістарычных каранёў. Гэта палітыка прымусовай русіфікацыі працягваецца і пры цяперашнім кіраўніцтве.

Народ пазбаўлены магчымасці свабодных выбараў і мусіць толькі назіраць самаўпраўныя дзеянні ўладаў, якія самі сябе прызначаюць. Таксама гэтыя улады ўсё яшчэ шануюць крыважэрных куміраў – Леніна, Сталіна і іх паплечнікаў. Вяртанне да цывілізаванага развіцця адбудзецца праз пазбаўленне ад ілжэкуміраў. У Гарадку, як і ў краіне, гэтую магчымасць не выкарыстоўваюць, знаходзячыся ў палоне старых ідэй, маючы сапсаваную памяць.

**Л. Антонаў**

# АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.***
- ***Рэдакцыя "Гасцінец" змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас: Гарадок, вул. Галіцкага д.16 кв.2 ў кожны аўторак і чацвер з 16 да 18, або на тэлефоны газеты «Гасцінец».***

ПРАБЛЕМЫ СЯМ'І

# РАСПАД ІНСТЫТУТА СЯМ'І

**Гарадоччына лідыруе на Віцебшчыне па тэмпах распада сем'яў на пачатку 2012 года. Разводаў на Гарадоччыне за першыя два месяцы адбылося амаль у паўтара разы больш чым было заключана шлюбаў.**

Паводле інфармацыі Нацыянальнага статыстычнага камітэту ў краіне працягвае разбурацца інстытут сям'і. Афіцыйныя лічбы за 2011 год зафіксавалі, што у краіне распадаецца амаль палова створаных сем'яў. На 86785 створаных у 2011 годзе сем'яў прышлося 38584 разводы, што склала 44% ад заключаных шлюбаў. Па Віцебшчыне гэты паказчык дасягнуў 48%, а на Гарадоччыне атрымаўся крыху ніжэйшым за агульнанацыянальны паказчык.

Значна горшыя для інстытута сям'і даныя былі зафіксаваны за студзень-люты гэтага году. На 8516 заключаных у краіне шлюбаў прышлося 6291 развод – 73%, на Віцебшчыне паказчык разводаў яшчэ вышэй – 77% ад створаных сем'яў. Гарадоцкі раён апынуўся у лідэрах па скасаванню сем'яў не толькі на Віцебшчыне, але і ў краіне. На 13 створаных сем'яў прыпала 19 разводаў! 3 іншых раёнаў Віцебшчыны толькі у Лепельскім колькасць разводаў вышэй за колькасць шлюбаў. Сярод рэгіёнаў Беларусі па колькасці разводаў вылучылася Гомельшчына, дзе ў многіх раёнах разводаў зафіксавана больш, чым шлюбаў.

Спецыялісты могуць праводзіць адмысловыя даследаванні негатыўнага стану інстытута сям'і на Беларусі, вывучаць прычыны распаду сем'яў. Але відавочна, што не пазітыўным чынам на сям'і сказваецца пазашлюбнае жыццё кіраўніка краіны пры маўклівай згодзе рэлігійных і уладных інстытутаў. На распад сем'яў уплывае і эканамічны крызіс, што быў выкліканы неадэкватнай эканамічнай палітыкай уладаў. Крызіс прывёў да масавага збяднення насельніцтва і ў першую чаргу адбіўся на маладых сем'ях. Негатыўна на сем'і ўплывае і пастаянны рост злоўжывання алкаголем.

Л. Антонаў

НАША ЖЫЦЦЁ

# Рух у дэмаграфічную яму

**Першыя два месяцы 2012 года зафіксавалі на Гарадоччыне далейшае змяншэнне насельніцтва. Адзінае "радуе", што тэмпы змяншэння насельніцтва запаволіліся.**

Нацыянальны статыстычны камітэт паведаміў аб дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне за першыя два месяцы бягучага году. Гэтыя лічбы сведчаць, што насельніцтва краіны, як за апошнія дзесяцігоддзі, працягвае змяншацца, толькі тэмпы змяншэння крыху запаволіліся. Калі за першыя два месяцы 2011 года насельніцтва Беларусі паменшыла на 6347 чалавек, то ў гэтым годзе за студзень-люты зменшылася на 4524 чалавека.

Па Віцебскай вобласці становішча са змяншэннем насельніцтва самае горшае. Вобласць займае у краіне першае месца па самаму адмоўнаму агульнаму каэфіцыенту натуральнага руху насельніцтва ў разліку на 1000 жыхароў: - 6,5. У Магілёўскай вобласці, якая на другім месцы па тэмпах змяншэння насельніцтва, гэты каэфіцыент -4,2. Наогул, насельніцтва вобласці на канец лютага склала каля 1 млн. 212,6 тысяч чалавек і стала за два месяцы яшчэ менш на 1308 чалавек. Гэта больш, чым ў любым іншым рэгіёне Беларусі.

На Гарадоччыне насельніцтва таксама пастаянна змяншаецца ўжо больш двух дзесяткаў гадоў – з 38 тысяч на пачатку 90-х да 25 тысяч у 2011 годзе. На канец лютага насельніцтва раёна склала 24804 чалавека і зменшылася за кошт натуральнага росту на 42 чалавека: 41 нарадзіўся і 83 памерла. За кошт міграцыйных працэсаў насельніцтва зменшылася на 36: 82 прыбыла і 118 выбыла.

Л. Антонаў

МЯСЦОВАЯ ЎЛАДА

# ПЛАНЫ ДЛЯ ПАПЕРЫ?...

**Прыкладная Праграма развіцця Гарадоцкага раёна на 2011-2015 гады мусіць і называецца прыкладнай, бо не з'яўляецца абавязковай для раённай улады. Большасць мерапрыемстваў сацыяльна-эканамічнага будаўніцтва на 2011 год засталіся не выкананымі.**

Гэтая праграма прымалася ў 2010 годзе пад час прэзідэнскай кампаніі і ў значнай меры з'яўлялася прапагандыскай паперай, якая падавала намеры мясцовых уладаў за Праграму развіцця рэгіёна. Але жыццё ў краіне абрынула такія "папяровыя" планы існуючага рэжыма. І гэта адбылося ў першую чаргу ў сувязі з неабгрунтаваным павелічэннем грашовай масы ў краіне, калі станок надрукаваў трыльёны нестворaных у рэальнай эканоміцы рублёў дзеля прадвыбарнай прапаганды.

Не мае сэнсу пералічваць усе пазіцыі Праграмы, якія засталіся нерэалізаванымі ў 2011 годзе. Але трэба адзначыць, што засталіся нерэалізаванымі менавіта тыя пазіцыі, якія павінны садзейнічаць інвестыцыйнай прывабнасці Гарадоччыны. Менавіта на 2011 год было запланавана правядзенне маркетынгавага даследавання раёна дзеля прыцягнення ўвагі патэнцыйных інвестараў. На гэтыя мэты выдзялялася 25 мільёнаў рублёў у коштах 2010 года, але пра вынікі гэтых даследаванняў нічога невядома. Таксама невядома і пра фільм аб раёне, які планавалася зрабіць у мінулым годзе за 8 мільёнаў рублёў. Не сустрэне аматараў здаровага ладу жыцця і гімнастычны гарадок на гарадскім стадыёне. На стварэнне гэтага гарадка райвыканкамам планавалася выдзеліць дзесяць мільёнаў рублёў.

Першыя два гады гэтай пяцігодкі на Гарадоччыне бачыліся для ўладаў ударнай працы па падрыхтоўцы да абласных "Дажынак", якія планавалася правесці ў 2012 годзе у Гарадку. Але абласныя "Дажынкі" не адбыліся ў 2011 годзе ў Лёзна і хутчэй за ўсё не адбудуцца і ў Гарадку. Тым не менш на 2012 год у Праграме запланаваны справы, якія даўно трэба зрабіць у Гарадку. Гэта датычыцца, як рамонта кінатэатра, так і рэканструкцыі Дома культуры. Пэўныя сродкі на рамонт гэтых аб'ектаў яшчэ анансаваліся ў 2011 годзе, але так і не былі засвоены, "дзякуючы" мляваскі мясцовых чыноўнікаў райвыканкама. Абласным бюджэтам планавалася падтрымаць рамонт кінатэатра сумай у тры мільярды рублёў з тым, каб за чатыры гады пяцігодкі магчыма на яго плошчах атрымаць сродкаў на 1,4 млрд. рублёў. Яшчэ больш грандыёзныя віды мясцовай улады былі на рамонт і мадэрнізацыю Дома культуры. Уклаўшы з раённага бюджэта ў гэту справу 1,7 млрд. рублёў райвыканкам у 2016 годзе планаваў зарабіць за тры гады аж 2,16 млрд. рублёў. Застаецца толькі спытаць у старшыні райвыканкама: "Васіль, дзе рамонт? Дзе грошы?"

Яшчэ больш пытанняў узнікае з сітуацыяй вакол танцавальнага зала, які за сімвалічны кошт быў прададзены прыватніку. У папярэдніх планах было стварэнне ў Гарадку моладзевага дасугавага цэнтру і найбольш аптымальным бачылася выкарыстанне плошчаў танцавальнай залы. Тым больш, што ў гэтых плошчах маюць патрэбу і мастацкія калектывы самага Дома культуры, але зараз яны ў прыватнай уласнасці. Між тым з бюджэту патрэбна было толькі 700 мільёнаў рублёў і чыноўнікі ўжо бачылі атрыманне сродкаў у адзін мільярд чатыраста сорак мільёнаў рублёў за наступныя чатыры гады. Толькі на гэтых планах быў пастаўлены крыж.

Сёння гарадакчанам застаецца спадзявацца, што ў 2012 годзе будуць у рэшцерэшт ажыццяўлены планы па рэанімацыі дзейнасці харчовага камбінату, які у коме ўжо пяць гадоў, а таксама ў Гарадку будзе створана сучасная лыжаролерная траса і база па стварэнню штучнага снегу. Без гэтай базы Цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі па зімовых відах спорту застанецца на паперы.

І ўсё гэта мусіць быць адлюстравана ў маляўнічым буклеце, які збіраюцца выдаць у гэтым годзе.

Л. Гаравы

НАШ АДПАЧЫНАК

# БОЛЬШ МАГЧЫМАСЦЕЙ ДЛЯ АКТЫЎНАГА АДПАЧЫНКУ

Дзяржаўная прыродаахоўная ўстанова «Карыцінскі Мох» атрымлівае дазвол ад Гарадоцкага райвыканкама на ажыццяўленне спартыўнай і турыстычнай дзейнасці ў час забароны на рыбалку.

Аматары спартыўна-турыстычнай дзейнасці у час забароны на рыбалку з 1 красавіка па 30 мая могуць скарыстацца паслугамі маламерных суднаў без рухавікоў ДПУ «Карыцінскі Мох» для падарожжа па рацэ Обаль, Аўсянка і Свіна. Менавіта такое права дае прыродаахоўнай установе «Карыценскі Мох» рашэнне №268, якое 23 сакавіка прыняў Гарадоцкі райвыканкам. Дадзенае рашэнне ўжо зарэгістравана ў Нацыянальным рээстры прававых актаў.

Адпаведна дадзенага рашэння аматары турызму могуць займацца турыстычнай і спартыўнай дзейнасцю ў светлы час на рыбалоўных месцах па вышэй названых рэках Гарадоцкага раёна. Кантроль за выкананем рашэння райвыканкама ўскладзены на Гарадоцкую інспекцыю прыродных рэсурсаў і ахоы навакольнага асяродзя.

У гэтым годзе ДПУ «Карыцінскі Мох» ужо можа прапанаваць турыстам пракат лодак, намётаў і турыстычнага рыштунка. Кошт пракату гумавых лодак даволі дэмакратычныя – каля 30 тысяч рублёў за суткі, а за суткавае карыстанне намётам – каля 20 тысяч. Самадзейная вандроўка па рэках у гэты час забаронена, але ДПУ «Карыцінскі Мох» можа аказаць садзейнічанне воднаму турызму.

Мясціны, па якіх прапаноўваюцца вандроўкі, вылучаюцца сваёй некранутай прыродай і асабліва цікавы ў час з'яўлення першай зеляніны. Час пакажа наколькі больш турыстаў пройдзе гэтым турыстычным маршрутам вясной 2012 года.

Т. Гаражанка

ЭКАЛАГІЧНАЯ ПРАБЛЕМА

# БАРШЧЭЎНІК САСНОЎСКАГА АТАКУЕ ВІЦЕБСК?

У 2012 годзе будзе працягнута барацьба з біялагічным монстрам, які займае на Віцебшчыне новыя тэрыторыі. Самая вялікая сума выдзелена абласному цэнтру для змагання з баршчэўнікам. Большасць раёнаў вобласці не атрымала і трэцяй часткі бюджэтных сродкаў, якія пойдуць у культурную сталіцу Беларусі.

Другі год запар выдзеляюцца бюджэтныя сродкі для барацьбы з баршчэўнікам Сасноўскага для адміністрацыйных адзінак Віцебшчыны. Пры гэтым фінансаванне павялічылася амаль у тры разы: з 380 млн. руб. да аднаго мільярда. І гэта пры тым, што ў мінулым годзе было адрапартавана аб барацьбе з баршчэўнікам на 97% (!) плошчаў з 1584 га яго распаўсюду ў вобласці. Атрымліваецца, што арэал распаўсюду біялагічнага монстра не зменшыўся, нягледзячы на выкарыстання 380 млн. рублёў.

У авангардзе барацьбы з баршчэўнікам ідуць раённыя інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, якія павінны д апачатку лета правесці поўнае абследаванне адміністрацыйных тэрыторый па выяўленню ўсіх зямельных участкаў, на якіх расце баршчэўнік, аформіць акты і выдаць прадпісанні гаспадарчым суб'ектам.

Чацвёртая частка бюджэтных сродкаў – 250 млн. руб. выдзеляецца абласному цэнтру, мусіць дзеля таго, каб канчаткова вынішчыць монстра ў сталіцы "Славянскага базару", а таксама 150 млн. руб. выдзяляецца яго прыгараду – Віцебскаму раёну. Астатнія 60% рэсурсаў пойдуць у восемь раёнаў вобласці, якія найбольш пакутваюць ад гэтага монстра: Браслаўскі - 130 млн., Ушацкі - 180 млн., Талачынскі - 70 млн., Міёрскі - 50 млн., Глыбоцкі, Полацкі і Сенненскі раёны - па 30 млн. рублёў.

Для Гарадоцкага раёна выдзеляецца 80 млн. руб. для барацьбы з баршчэўнікам, што значна менш чым у Віцебску. У мінулым годзе на Гарадоччыне монстр займаў каля 160 га, вальготна адчуваючы сябе асабліва ў межанскім накірунку: в. Стадолішча, Дуброва, Бескатава, Паўловічы, Сечанка і іншыя.

Відавочна, што і ў гэтым годзе мы атрымаем рапарты аб засваенні мільярда рублёў у барацьбе з баршчэўнікам. Але рэальны вынік барацьбы з ім могуць ацаніць толькі неабыякавыя грамадзяне, калі зробяць маніторынг арэалу распаўсюду напрыканцы лета.

Л. Антонаў

СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЕ РАЗВІЦЦЁ

# І "француз" з'явіцца на Гарадоччыне

**ААТ "Гарадоцкі льназавод" пасля шматлікіх льнаводчых гаспадарак Віцебшчыны вырашыў звярнуцца да вырошчвання льна французкага гатунка "алізэ". Пад гатунак "алізе" мяркуецца адвесці каля 120 га зямлі.**

На працягу апошніх гадоў у льнаводчых гаспадарках Віцебшчыны актыўна выкарыстоўваюца французкі гатунак льна "алізе". Першымі яго пачалі выкарыстоўваць каля пяці гадоў назад льнаводы Дубровеншчыны. За апошнія гады гэты гатунак льну выціскае іншыя гатункі перш за ўсё сваёй высокай якасцю. На Аршаншчыне атрымліваюць гэты далгунец вышынёй па 120-130 см і атрыманнем льнатрасты аж 12 нумара. Наогул на Аршаншчыне за кошт пісьменнай селекцыю льну атрымліваюць да 40% доўгага валакна. Актыўна выкарыстоўваюць гатунак "алізе" і льнаводчыя гаспадаркі Докшыцкага, Верхнядзвінскага, Пастаўскага і іншых раёнаў Віцебшчыне.

У гэтым годзе льнаводы Гарадочыны ўпершыню закупілі каля 10 тон льну гатунка "алізе". Пры пасеве 80 кг на гектар пад яго будзе занята каля 120 га. Пры нармальнай культуре льнаводства гаспадарка мае усе шанцы застацца на наступны год са сваімі семенамі гэтага французкага гатунка.

Усяго гаспадарка плануе заняць па лён каля 650 га, з якіх больш паловы зямель арэндуецца ў іншых гаспадарках раёна. Гэта дазволіць пры ўраджайнасці ў 9,3 ц/га атрымаць не менш 600 т льнавалакна. Прыкладна пятая частка яго будзе выраблена з гатунка "алізе".

Л. Антонаў

ЗАКАЗНЫЯ ПРАЦЭСЫ

# БРАТ НА БРАТА

В СТРАНЕ ЭПИДЕМИЯ ПОЛИТИЧЕСКОЙ АКТИВНОСТИ ТРУДОВЫХ КОЛЛЕКТИВОВ. ПО КРАЙНЕЙ МЕРЕ, ОФИЦИАЛЬНЫЕ ПРОФСОЮЗЫ СТАРАТЕЛЬНО ЕЕ ИЗОБРАЖАЮТ: ЗАСЕДАЮТ, ПРИНИМАЮТ ЗАЯВЛЕНИЯ, ОТ ИМЕНИ МНОГОТЫСЯЧНОЙ АРМИИ ТРУДЯЩИХСЯ КЛЕЙМЯТ И ОБЛИЧАЮТ ТЕХ, КТО, ПО ИХ МНЕНИЮ, ПОДРЫВАЕТ ОТНОШЕНИЯ БЕЛАРУСИ С ЕВРОПОЙ.

«Врагов народа» по требованию трудовых коллективов не расстреливают, но уже готовы судить.

Оператор ЭВМ с Мозырского НПЗ Марина Циблиенко и мастер смены предприятия «Гродно-Азот» Алексей Емельянчик подали иски против политиков Виктора Ивашкевича и Дмитрия Усса, так как считают именно их виновными в нестабильных перспективах своих предприятий на внешних рынках.

Из-за постоянной войны на линии Беларусь-Европа нас всех лихорадит, мы все страдаем. Что бытовые мелочи взять, что глобальную политику - белорусы будто ущербные или прокаженные.

Например, стоимость шенгенской визы. Для граждан России и Украины она всего 35 евро, для белорусов -- 60. Чувствуете разницу?! А ведь при наших зарплатах 60 евро это то же самое, что для россиянина 300! И европейцы это понимают. Более того, не скрывают, что отношение к нам такое, потому что с Минском невозможно договориться. Украина и Россия полноценно участвуют в программе «Европейская политика соседства», а Беларусь -- нет. Носом крутим, дверями хлопаем, то и дело плюемся обидами из-за пограничных столбов. Нам и то не так, и это не этак, и здесь нас не уважили, и там не поняли. То, что России и Украине хорошо, нам почему-то плохо.

Из Москвы и Киева послов не выдворяют, их президенты европейских лидеров «козлами», «вшивыми», «голубыми» не называют. И как-то все у них с Европой получается: для простых людей - визы дешевые, для государств -- проекты общие, лидеры встречаются, вопросы решают, руки друг другу пожимают. Зато ни к нам кто, ни мы к кому; апломб зашкаливает, язык без костей - и провал по всем фронтам…

Профсоюзный актив господина Козика дружно поддерживает судебные иски Циблиенко и Емельянчика, потому что видит в призывах к санкциям угрозу срыва глобальных экономических планов и проектов многих белорусских предприятий. А ведь для начала стоило бы разобраться с проектами, которые уже сорвались. Например, Китай на днях отказался от инвестиций в Минский аэропорт. Ивашкевич ничего Китаю не подсказывал, ни к чему не призывал. Они сами додумались…

…Так кто виноват, что большие китайские деньги упорно в Беларусь не идут, что сорвался проект с аэропортом? Кто виноват, что мы, как те ослы, ждем серьезных вливаний из Китая и одновременно развернули дипломатическую войну на западном фронте? Может, молодой начальник смены Алексей Емельянчик с «Гродно-Азота» все-таки по-честному ответит на вопрос, почему у Беларуси проблемы даже с китайскими инвестициями, хотя ни Ивашкевич, ни Усс к Пекину с воззваниями не обращались?

...Не надо быть экономистом, чтобы понять: мы сами поставили себя к стенке и теперь бьемся в нее, обвиняя весь мир. Хотя мир ничего невероятного от нас не требует. Европа готова и деньги дать, и свой рынок открыть. Напомню, что, когда перед президентскими выборами в Минск прилетали министры иностранных дел Польши и Германии, было однозначно заявлено: будут честные выборы -- Беларусь получит от ЕС 3 миллиарда евро. Но не нужны нашей власти оказались эти миллиарды. Ей лучше, чтобы спецназ, натасканный на разгон акций протеста, проверил свои умения на практике.

Проверили. Спецназ с безоружными людьми справился. Денег Беларусь не получила.

А потом был обвал рубля, рост цен, слезы пенсионеров возле прилавков с мясом и колбасой… И наше высшее начальство старательно делало вид, что очень простым людям сочувствует.

Сейчас есть план польского премьера Дональда Туска: белорусская власть выпускает из тюрем политзаключенных, прекращает репрессии против политических оппонентов, проводит честные выборы в парламент - и получает 9 миллиардов евро.

Но нам опять не надо. На днях глава Администрации президента Владимир Макей и министр иностранных дел Сергей Мартынов исполнили под телекамеры старые песни про давление и шантаж со стороны Европы.

А ведь они знают, что чуда не случится; что, кроме Запада, Беларусь из финансовой пропасти никто не вытянет. Российские деньги на поддержание штанов -- это всего лишь скупка наших заводов, а инвестиции из арабского мира -- скупка земель под гостиницы и развлекательные комплексы. Причем за копейки… Все это продлевает агонию. Не более.

Они знают, что без серьезных внешних финансовых и технологических вливаний белорусы так и будут душиться в очередях за социальным молоком, корячиться на нескольких подработках, экономить на отдыхе, питаться костями да капустой. Знают, что многие старики со своими пенсиями от такой жизни будут плакать. Знают, что далеко не все белорусские дети попробуют тот же ананас. Знают, что секонд-хенды -- обноски из Европы -- останутся самыми посещаемыми магазинами.

Знают. Но, сложив губы куриной гузкой, учат всех, как правильно Родину любить.

Они знают, что Европе, Западу от нас ничего вопиющего не надо -- только чтобы власти, считаясь с общечеловеческими ценностями, вели себя прилично и не натравливали белорусов на белорусов, брата на брата. А еще чтобы вернули нам, белорусам, право выбирать и президента, и депутатов. И что нет в этом никакого шантажа, никакого унижения или оскорбления страны.

Все всё знают, понимают, все не дураки. Но топ-персоны -- на телеэкране, профсоюзы встали в стойку, общественные организации, предприниматели, адвокаты принимают заявления и обращения, клеймят оппозицию позором и призывают Европу отказаться от введения санкций. Люди тонкой душевной организации типа Марины Циблиенко и Алексея Емельянчика в суды побежали, чтобы Родину защитить.

Спектакль это. И дурной. Отвлекающий от главного.

Потому что пока политзаключенные в тюрьмах, пока наша политическая система -- это настроения, желания, пристрастия и симпатии одного человека, -- никаких нормальных отношений с цивилизованным миром мы не выстроим. Если профсоюзы, адвокаты, предприниматели, физики, химики, поэты, художники, рабочие, учителя и т.д., и т.п. на самом деле хотят добра своей стране - простому работяге, мастеру смены на заводе или оператору вычислительных машин, они должны не к Европе взывать. Они должны от белорусской власти требовать: во-первых, освобождения политзаключенных; во-вторых, общественного диалога; в-третьих, серьезной политической реформы.

Чтобы каждый в Беларуси имел право голоса. Чтобы каждый имел право выбора. Чтобы власть не делила белорусов на правильных и неправильных.

Никаких политических конфликтов с Западом, никаких санкций не будет, если мы у себя в стране научимся вести политические споры без помощи тюрем и спецназа. Потому что нам всем здесь жить. У нас одна земля. Мы один народ. И хватит нас стравливать.

***(В сокращении)***

**Светлана Калинкина, «Народная воля»**

НАША ЎЛАДА

# КЛАСКОВСКИЙ: ЛУКАШЕНКО РАСТЕРЯН

21 АПРЕЛЯ НА ОБЩЕРЕСПУБЛИКАНСКОМ СУББОТНИКЕ АЛЕКСАНДР ЛУКАШЕНКО РАССКАЗАЛ ГОСУДАРСТВЕННЫМ МЕДИА ОБ АСПЕКТАХ ВНЕШНЕЙ И ВНУТРЕННЕЙ ПОЛИТИКИ.

Белорусы узнали, что у главы страны есть овечья ферма, а зарплаты белорусов скоро будут на уровне соседних стран. Политзаключенных же предупредили о возможности возвращения за решетку. При этом Лукашенко напомнил о своей «ненахилильнасци» и признался, что «не имеет ничего к потере».

По словам политолога Александра Класковского, подобные заявления свидетельствуют о растерянности главы государства. Заявления, сделанные на субботнике, должны были заменить отложенное послание к народу. «Перенос послания негативно повлиял на имидж. Видно, что на самом деле официальный руководитель не знает, как вести себя. Поэтому в этой связи следовало высказаться и подчеркнуть, что он имеет ответы на все вопросы. Это прозвучало еще и в контексте возможных социальных протестов. Такие заявления звучат обычно тогда, когда какая-то проблема действительно волнует официального лидера. Так как пролетариат страшнее традиционной оппозиции для власти», - отметил Класковский.

Лукашенко подчеркнул, что освобождение Санникова и Бондаренко произошло не под давлением Запада, а по доброй воле главы государства. По его мнению, послы стран Евросоюза возвращаются в Беларусь только ради того, чтобы сохранить лицо.

Однако Класковский полагает, что это не совсем так. «Надо понимать, что послы не есть политики. Они в какой-то мере оказались заложниками ситуации. Европа же не хотела отозвать их. Это был очень вынужденный шаг, дипломатическая война - это нонсенс для Европы XXI века. Поэтому возвращение не нужно обставлять какой-то помпой. Власти Беларуси пытаются свести все только к циркуляции послов, чтобы скрыть главные проблемы: освобождение политзаключенных и нормальные выборы», - сказал эксперт в интервью телеканалу «Белсат».

ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

# ПРАМЫСЛОВАСЦІ ПАСТАВІЛІ ДЫЯГНАЗ, КУРС ЛЯЧЭННЯ - 90 МЛРД. ДАЛЯРАЎ

КІРАЎНІК АНАЛІТЫЧНАГА ЦЭНТРА «СТРАТЭГІЯ» ЛЕАНІД ЗАІКА НАЗВАЎ ПАМЫЛКІ КІРАЎНІКА НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА БЕЛАРУСІ НАДЗЕІ ЕРМАКОВАЙ, ЗА ЯКІЯ, У СВОЙ ЧАС, СТАВІЎ СТУДЭНТАМ «ДВОЙКІ».

Восенню 2011 года беларускі прэм'ер даручыў падрыхтаваць (распараджэнне № 153р) праект праграмы развіцця прамысловага комплексу Беларусі «на бліжэйшую і доўгатэрміновую перспектыву». Да цяперашняга часу праект гатовы. Аўтары праекта прапаноўваюць накіраваць на яе развіццё каля 90 млрд. даляраў.

Аўтары дакумента, тэкстам якога валодае інтэрнэт-газета Naviny.by, крытычна ацэньваюць цяперашні стан беларускай прамысловасці і прапануюць накіраваць на яе развіццё каля 90 млрд. даляраў.

Грошы ўнеслі, аддачы не атрымалі

Падрыхтоўка праграмы развіцця прамысловага комплексу на перыяд да 2020 года ажыццяўлялася пад кіраўніцтвам першага віцэ-прэм'ера Уладзіміра Сямашкі. Бясспрэчная каштоўнасць дакумента складаецца ў разгорнутым апісанні бягучага стану беларускай прамысловасці.

Аказваецца, для нашых прамысловых прадпрыемстваў характэрны вельмі нізкі ўзровень прадукцыйнасці працы.

«Па дадзеным паказчыку ў апрацоўчай прамысловасці Рэспубліка Беларусь больш чым у 4 разы адстае ад ЕС-27, што адлюстроўвае нізкі ўзровень канкурэнтаздольнасці айчыннай прадукцыі на сусветных рынках», - гаворыцца ў праекце праграмы развіцця прамысловага комплексу да 2020 года, тэкстам якога валодае інтэрнэт-газета Naviny.by.

Плюс да гэтага, як высвятляецца з дакумента, у Беларусі склалася неэфектыўная галіновая і тэхналагічная структура прамысловага комплексу: на долю высокатэхналагічных вытворчасцей у нашай краіне прыпадае толькі 2-3% выпускаемай прамысловай прадукцыі.

Для беларускіх прампрадпрыемстваў таксама характэрная «высокая матэрыяла-, імпарта-і энергаёмістасць», што прыводзіць «да дэфіцыту фінансавых рэсурсаў для папаўнення абаротных сродкаў і інвесціравання ў тэхнічнае пераўзбраенне».

Тым не менш, нягледзячы на нізкую эфектыўнасць, у беларускія прадпрыемствы укладвае велізарныя грошы. Адэкватнай аддачы ад укладзеных інвестыцый не было. Паводле ацэнак аўтараў распрацаванай праграмы, у 2006-2010 гг. тэмп росту інвестыцый у асноўны капітал у прамысловасці перавысіў тэмп росту вытворчасці прамысловай прадукцыі на 74 працэнтных пункта.

«Аддача інвестыцый (рубель прадукцыі на рубель інвестыцый) знізілася з 13,8 рублёў у 2006 годзе да 11,7 рублёў у 2010 годзе», - паведамляецца ў праекце праграмы развіцця прамысловага комплексу.

Адштурхнуўшыся ад існых болек беларускай прамысловасці, распрацоўшчыкі праграмы прапануюць у 2012-2020 гг. накіраваць намаганні на павышэнне канкурэнтаздольнасці промсектора. Дамагчыся гэтага прапануецца двума шляхамі: за кошт мадэрнізацыі традыцыйных сектараў прамысловасці і праз стварэнне «высокатэхналагічных навукаёмістых вытворчасцей». Рэалізацыя падрыхтаванай прамысловай праграмы, як чакаецца, дазволіць за наступныя восем гадоў «скараціць ўдвая разрыў па ўзроўні прадукцыйнасці працы ад еўрапейскіх краін».

Аднак каб дасягнуць гэтай мэты, неабходна будзе накіраваць на развіццё прамысловасці ў 2012-2020 гг. каля ... 90 млрд. даляраў. Менавіта такі аб'ём расходаў прадугледжвае падрыхтаваная праграма развіцця прамысловага комплексу Беларусі.

На мінулым тыдні, па інфармацыі Naviny.by, падрыхтаваны праект праграмы развіцця промкомплекса разглядалася на ўзроўні бізнес-асацыяцый. У абмеркаванні дакумента прыняў удзел і першы віцэ-прэм'ер Уладзіміра Сямашкі.

Многія прадстаўнікі дзелавой супольнасці апынуліся незадаволеныя прадстаўленым варыянтам праграмы развіцця прамысловага комплексу. «Інвестпраекты, рэалізацыя якіх прадугледжана падрыхтаванай праграмай, арыентаваны на традыцыйныя сектара і не змяняюць існуючую структуру эканомікі», - кажа намеснік старшыні Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Георгій Грыц.

Прадстаўнікі бізнес-саюзаў таксама не згодныя з ключавымі ідэямі падрыхтаванай праграмы.

«Адна з задач распрацаванай праграмы складаецца ў тым, каб скараціць разрыў у прадукцыйнасці працы з еўрапейскімі краінамі з чатырох да двух разоў. Аднак чаму мы павінны быць увесь час даганяць? Неабходна вызначыць сектара эканомікі, дзе мы будзем паказваць вынікі лепш, чым іншыя краіны. У падрыхтаванай праграме такія сектара не вызначаны «, - канстатуе Георгій Грыц.

Віктар Маргелаў, у сваю чаргу, адзначае, што ў падрыхтаванай праграме не знайшлі адлюстравання многія пытанні, ад рашэння якіх залежаць магчымасці для развіцця вытворчага сектара. «У праграме развіцця прамысловага комплексу павінна быць адлюстравана падатковая палітыка ў адносінах да вытворцам. У дакуменце неабходна распісаць, як будуць мяняцца стаўкі асноўных падаткаў. Ад гэтага наўпрост будуць залежаць ўмовы для развіцця вытворчага сектара », - мяркуе Віктар Маргелаў.

Паводле інфармацыі Naviny.by, на гэтым тыдні прадстаўнікі бізнес-супольнасці накіруюць у Мінэканомікі ліст, у якой агучаць свае прапановы ў праект праграмы развіцця промкомплекса. Мяркуецца таксама, што бізнес-саюзы накіруюць ліст прэм'ер-міністру Міхаілу Мясніковічу і папросяць яго не спяшацца з прыняццем падрыхтаванай праграмы развіцця промкомплекса і накіраваць яе на дапрацоўку.

Цяперашні варыянт праграмы, лічаць назіральнікі, не дае адказу на многія пытанні. У прыватнасці, на фінансавы. Падрыхтаваны праект праграмы прадугледжвае, што выдаткі на яе рэалізацыю складуць каля 90 млрд. даляраў. «Застаецца адкрытым пытанне, дзе крыніцы фінансавання падрыхтаванай праграмы», - адзначае Георгій Грыц.

**Дзмітрый Заяц, "БЕЛАПАН"**

ПАЛІТЫЧНЫ ПЕРАСЛЕД

# НІЯКАГА ЛЯЧЭНЬНЯ КАВАЛЕНКУ НЕ АКАЗВАЕЦЦА

17 КРАСАВІКА ЗЬ СЯРГЕЕМ КАВАЛЕНКАМ У ПСЫХІЯТРЫЧНАЙ ЛЯКАРНІ Ў НАВІНКАХ СУСТРЭЎСЯ ЯГОНЫ АДВАКАТ. ЖОНКА АКТЫВІСТА АЛЕНА КАВАЛЕНКА РАСПАВЯЛА ПРА ТОЕ, ШТО ЗАРАЗ АДБЫВАЕЦЦА ЗЬ ЯЕ МУЖАМ.

«Што ён сказаў? Што Сяргей яшчэ выглядае дрэнна, застаецца вельмі схуднелым. Настрой у яго, канечне, палепшыўся, але ніякага лячэньня яму не аказваецца. Фактычна ён туды кінуты проста на выжываньне. Ніякага лекаваньня і кантролю над станам унутраных органаў яму не аказваюць. Аналізы яшчэ ня зробленыя — ва ўсякім разе, пра гэта яшчэ не сказалі. Таму я б хацела, каб яго хутчэй адправілі ў цывільны шпіталь, бо ягонае жыцьцё яшчэ застаецца пад пагрозай. Бо кантролю ад мэдыкаў за ягоным станам няма. Наколькі я ведаю, яго там нават ня ўзважылі. Выжыве — добра, ня выжыве… Там толькі за ім назіраньне».

Паводле рашэньня Віцебскага абласнога суду, які разглядаў касацыйную скаргу Сяргея Каваленкі, на пачатку красавіка актывіст быў зьмешчаны ў «Навінкі» дзеля комплекснай псыхіятрычнай экспэртызы. Зь сярэдзіны сьнежня да канца сакавіка зь перапынкам на 20 дзён Сяргей Каваленка трымаў галадоўку пратэсту, за час якой схуднеў да 45 кілаграмаў. Пасля зьмяшчэньня ў Навінкі патрыёт Каваленка галадоўку спыніў.

**Алег Грузьдзіловіч, «Радыё Свабода»**

САЛІДАРНАСЦЬ



# ПАДТРЫМАЙЦЕ ІХ ГРАШОВЫМ ПЕРАВОДАМ!

ПАСЛЯ ТАГО, ЯК АКТЫВІСТА КХП-БНФ СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКУ АРЫШТАВАЛІ, ЯГО РОДНЫЯ ЗАСТАЛІСЯ БЕЗ КРЫНІЦЫ ПРЫБЫТКАЎ: СЯРГЕЙ БЫЎ АДЗІНЫМ, ХТО ПРАЦАВАЎ.

Яго жонка Алена знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку. Цяпер жанчына засталася з 8-месячнай дачкой і 7-гадовым сынам на руках. Падтрыймайце сям'ю Каваленкаў!

Грошы можна высылаць паштовым пераводам:

210038, г. Віцебск, Маскоўскі праспект, д. 47, к. 1, кв. 57. Каваленка Алена Юр'еўна.

Альбо можна пералічыць на банкаўскі рахунак, каму так зручнее:

р/р 01073849, Беларусбанк, адз.201/85, г.Віцебск, Каваленка Алена Юр'еўна.

Летась людская салідарнасць дапамагла звольненай настаўніцы гісторы з Талькі Наталлі Ільніч, якая атрымала 169 грашовых пераводаў.

МЫТНЫ САЮЗ

# Беларусь у СГА не бяруць, але жыць па яе правілах абавяжуць

ДА ЎСТУПЛЕННЯ РАСЕІ Ў СГА, ЯКОЕ ЧАКАЕЦЦА Ў СЯРЭДЗІНЕ ГЭТАГА ГОДА, ЗАСТАЮЦЦА ЛІЧАНЫЯ МЕСЯЦЫ.

У сувязі з гэтым у Мытным саюзе, куды ўваходзяць Расія, Беларусь і Казахстан, знізяцца стаўкі мытных пошлін. Паводле ацэнак Сусветнага банка, уступленне ў Сусветную гандлёвую арганізацыю прынясе Расіі істотныя выгады. А вось у Беларусі з-за ўваходжання Расіі ў СГА з'явяцца новыя праблемы.

Для Расеі ўваходжанне ў Сусветную гандлёвую арганізацыю – добра. Пры тым што непазбежныя некаторыя бюджэтныя страты, звязаныя са зніжэннем у рамках СГА мытных пошлін, выгады апынуцца істотна вышэй. Паводле прагнозу Сусветнага банка, далучэнне да Сусветнай гандлёвай арганізацыі на працягу бліжэйшых трох гадоў будзе прыносіць Расеі штогод каля 3,3% ВУП (або 49 млрд. даляраў). У далейшым выгады Расеі ад уступлення ў СГА, паводле ацэнак Сусветнага банка, яшчэ больш узрастуць.

Як ўваходжанне Расеі ў СГА паўплывае на Беларусь? Былы прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Сідорскі, які цяпер з'яўляецца членам калегіі Еўразійскай эканамічнай камісіі, у сакавіку даў зразумець, што пасля ўступлення Расеі ў СГА стаўкі мытных пошлін на тэрыторыі Мытнага саюза зменяцца.

«Усе краіны Мытнага саюза будуць прымаць мытныя тарыфы той краіны, якая першай ўступіць у СГА», - заявіў Сідорскі. Першай, зразумела ўжо ўсім, уступіць у СГА Расея.

Намеснік старшыні Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Георгій Грыц удакладняе, што цяпер Беларусі давядзецца выконваць тарыфныя абавязацельствы, якія ўзяла на сябе Расея перад СГА.

«Абавязацельствы Расіі перад СГА з'яўляюцца нормамі, абавязковымі для выканання ўсімі краінамі Мытнага саюза. Мы трапляем ў сітуацыю, калі, не з'яўляючыся членамі СГА, павінны выконваць патрабаванні СГА », - кажа Георгій Грыц.

Прымаючы ўмовы СГА, Расія ўзгадніла з міжнароднай гандлёвай арганізацыяй больш нізкія мытныя тарыфы, чым тыя, якія дзейнічаюць у Мытным саюзе. Паводле інфармацыі МЗС Беларусі, «у дачыненні да больш за 1000 пазіцый расійскія абавязацельствы перад СГА ніжэй дзеючых ставак Адзінага мытнага тарыфу Мытнага саюза на 7-15 працэнтных пунктаў. 3 іх больш за 50 пазіцый - адчувальныя для Рэспублікі Беларусь «.

Аднак у найбольшай ступені ўступленне Расіі ў СГА можа адбіцца на беларускіх экспарцёрах, якія працуюць у сферы машынабудавання, у тым ліку - сельгасмашынабудавання.

Пасля ўваходжання Расіі ў СГА сельгастэхніка, а таксама грузавыя аўтамабілі будуць перасякаць мяжу Мытнага саюза, абкладаючы больш нізкімі мытнымі стаўкамі. Да прыкладу, пошліны на ўвоз сельгастэхнікі ў Расію пасля яе ўступлення ў СГА знізяцца адразу з цяперашніх 15% да 10-5%. Гэта прывядзе да таго, што ў Расею з краін СГА стане паступаць больш танная сельгастэхніка. Падобная сітуацыя па грузавых аўтамабілях.

Ну і нарэшце - яшчэ адна непрыемная навіна: абаранкі самастойна свае інтарэсы беларускі бок не зможа. Справа ў тым, што члены СГА маюць доступ да механізму дазволу спрэчак, які існуе ў рамках міжнароднай гандлёвай арганізацыі. Услед за Расіяй членам СГА ў 2012 годзе стане Казахстан. Такім чынам, Беларусь, якая яшчэ далёкая ад уступлення ў гандлёвую арганізацыю, - адзіная краіна ў АЭП, якая не будзе мець доступу да механізму дазволу спрэчак ў СГА.

Увогуле, канкурэнцыя для беларускіх вытворцаў, асабліва для экспарцёраў, пасля ўступлення Расеі ў СГА сур'ёзна ўзрасце. Цалкам верагодна, што ў новых умовах кампаніі, прысутныя на расійскім рынку, захочуць пацясніць беларускіх вытворцаў. Што гэта азначае для апошніх?

Зірнем на статыстыку. У 2011 годзе Беларусь паставіла на экспарт 11782 грузавыя аўтамабілі, у тым ліку ў Расію - больш за 9 тысяч; 6865 седлавых цягачоў, у тым ліку ў Расію - 6251. На экспарт было таксама пастаўлена 57.224 трактары, у тым ліку ў Расію - амаль 30 тысяч. Як бачым, на расійскі рынак прыходзіцца ільвіная доля экспарту прадукцыі беларускага машынабудавання. Таму калі канкурэнты пачнуць выцясняць яго прадпрыемства з расейскага рынку, гэта будзе адчувальным ударам.

У той жа час, як мяркуе навуковы дырэктар Даследчага цэнтра ІПМ Ірына Тачыцкая, уступленне Расеі ў СГА можа падштурхнуць рэформы ў рэальным сектары беларускай эканомікі. «У нашай эканомікі было мала выклікаў, якія прымушалі б праводзіць рэформы і павышаць эфектыўнасць. Нас вельмі расслабляе расійскі рынак і танныя энерганосьбіты. Зараз, у сувязі з уступленнем Расіі ў СГА, і нам давядзецца думаць аб павышэнні сваёй канкурэнтаздольнасці», - кажа Ірына Тачыцкая.

**Дзмітрый Заяц, БЕЛАПАН**

НУ І НУ!..

# ЖАРТАЎ НЕ РАЗУМЕЮЦЬ

ТЭЛЕКАНАЛ АНТ НА ПОЎНЫМ СУР'ЁЗЕ 8 КРАСАВІКА ПАЎТАРЫЎ ПЕРШАКРАСАВІЦКІ ЖАРТ ГАЗЕТЫ «ТАВАРЫШ» ПРА «ФАЛЬСЫФІКАЦЫІ» НА ЗЬЕЗЬДЗЕ АГП.

На сайце газэты 1 красавіка была разьмешчаная нататка пад загаловкам «Зьезд АГП скончыўся гучным скандалам», у якой гаварылася, што «апазіцыянэры, якія ўвесь час вінавацяць улады ў падтасоўцы галасоў на выбарах, самі не зусім чыстыя на руку». Паведамлялася, што па выніках нібыта праведзенага прадстаўнікамі іншых партый экзіт-полу, Анатоль Лябедзька не перамог у ходзе тайнага галасаваньня па выбарах старшыні партыі — за яго на самой справе прагаласавала ўсяго 15,5%.

Як паказала «журналісцкае расьсьледаваньне», аднапартыйцы не даравалі Анатолю Лябедзьку непрыстойных паводзінаў у грамадзкіх месцах: «Як можа старшыня партыі, які прэтэндуе на цыянальнае лідэрства, брыдкасловіць у грамадзкіх месцах? Гэта недапушчальна! Таму я і мае аднадумцы галасавалі супраць », - цытаваў сайт нейкую паважаную дэлегатку зьезду.

Самому Анатолю Лябедзьку «Товарищ.online» прыпісаў такія словы: «У першую чаргу мы паглядзім відэазапіс з пакою падліку галасоў. Падругое, высьветлім, б...ь, хто спрабуе дэстабілізаваць сытуацыю ў партыі. Па-трэцяе, гатовы падаць у адстаўку, калі гэтыя зьвесткі пацьвердзяцца».



Гэтая першакрасавіцкая нататка была на поўным сур'ёзе працытаваная ў эфіры выніковай праграмы «Контуры» на тэлеканале АНТ, прысьвечанай тэме эўрапейскіх санкцый і ўплыву апазіцыі на іх прыняцьце.

Тэлеканал Белсат 1 красавіка перадаў інфармацыю пра заклік палітычнага эмігранта зь Беларусі Зьмітра Піменава да НАТА з просьбай увесьці войскі ў Беларусь.

На мінулым тыдні гэты першакрасавіцкі жарт прыгадаў у сваёй заяве як сур'ёзную прапанову кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта РБ Уладзімер Макей: «Апазыцыя спрэс складаецца з такіх вось Піменавых», — рэзюмаваў ён. І гэтыя "сур'ёзныя" высновы некалькі дзён паўтараюць дзяржаўныя СМІ.

**Радыё "Свабода".**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 26.04.2012 у 20.15.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.